# Што дзеецца ў сьвеце?

### Масква сьвяткуе.

7-га лістападу ў дзень 10-х угодкаў істнаваньня бальшавіцкае ўлады ў Расеі з самае раніцы вялікія масы дэманстрантаў з усіх частак Масквы вырушылі ў цэнтр места—на Чырвоную плошчу. Агульная лічба дэманстрантаў аблічаецца каля мільёну асобаў. На трыбуне ленінскага маўзалея сабраўся савецкі ўрад, цэнтральны камітэт камуністычнае партыі, рэвваенсавет і цэнтральная рада прафэсыянальных саюзаў. З абодвых бакоў ленінскага маўзалея месца занялі сябры дыплёматычнага корпусу і сотні дэлегацыяў ад заграмічных камуністычных партыяў і дэлегацыі ад правінцыянальных савецкіх арганізацыяў і ўрадавых інстытуцыяў.

Парад чырвонае арміі прыняў старшыня цэнтральнага выканаўчага камітэту Калінін, які пасьля выступіў з прамоваю. Пасьля Калініна гаварыў Бухарын ад імя цэнтр. камітэту камуністычнае партыі і Галахэр ад імя трэцьцяга Інтэрнацыяналу. Пасьля параду, аж да самага змроку праходзілі дэманстранты міма трыбуны.

Як выяснілася з прамоваў, дык на першым пляне савецкага дзяржаўнага будаўніцтва, стаіць барацьба з сацыял-дэмакратамі, г. зн. з 2 Інтэрнацыяналам. Гэта адзначыў у свaей прамове сэкратар камуністычнае партыі фактычны пралетарскі дыктатар Сталін.

Троцкі і Зіноўеў ня мелі магчымасьці выступаць, але-ж іх староннікі, усё-ж такі месцамі мелі пасьпех.

### У кітайскай вайне.

У кітайскай хатняй вайне ізноў быццам здарылася перамена. Быццам капрысны лёс пакіраваў ваеннае шчасьце на бок Чанг-Тсо-Ліна, які, нягледзячы на сьнегавую мяцеліцу, наступае ўдоўж мангольскае чыгункі ў напрамку на Калган. У апошніх бойках, быццам, армія прав. Шансі пацярпела няўдачу і панясла вялікія страты. На фронце Ханана, паўночныя арміі мелі новую няўдачу. Армія гэн. Фэнга захапіла ў няволю прыблізна дзесяць тысяч чалавек з паўночнае арміі, галоўным камандзерам, якое зьяўляецца вядомы ўжо Чанг-Тсо-Лін.

Газэты ізноў зьмясьцілі вестку аб іншым Чангу, а іменна: аб Чанг-Кай-Шэку. Чанг-Кай-Шэк пацярпеўшы няўдачу, будучы галоўным кіраўнікам нанкінскае арміі пакінуў армію, ды выехаў у Амэрыку. Цяпер-жа быццам вяртаецца ізноў на сцэну і нібыта будзе камандаваць арміямі новага кітайскага ўраду ў Кантоне.

### У Мэксыцы.

Як пішуць замежныя газэты, дык гэн. Гомец галоўны кіраўнік паўстаньня быццам папаў у няволю ўрадавым войскам. Па весткам тых-жа газэтаў гэн. Гомец разам з іншымі трымя гэнераламі—растрэляны.

### 60 ахвяраў буры.

Бура, якая праняслася нядаўна над Англіяй выклікала 60 чалавечых ахвяраў, якія былі, або забіты або ўтапіліся. Найбольш уцярпела партовае места Флідбуд дзе цэлыя кварталы былі залітыя вадою, якую бура падняла з мора. 600 асобаў там асталося бяз даху над галавою, бо дамы іх былі зруйнаваны. Карабль „Бамары П'ер", які выехаў ратаваць рыбакоў, загінуў сам у хвалях мора і ўсе яго пасажыры.

### Паводка ў Амэрыцы.

Згодна газэтных вестак у паўночна-ўсходніх штатах Амэрыкі, дзе здарылася паводка, загінула ўсяго 250 чалавек. Ад паводкі уцярпела і Канада, дзе таксама ёсьць ахвяра людзьмі і вялікія руіны. У лічбе ахвяраў знаходзіцца дырэктар аднэй чыгункі, якога захапіла паводка на цягніку ў нізінным месцы.

# НАВІНЫ.

**— Канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу.** У сераду 16 лістападу ў Стоўпцах адбудзецца канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу.

Парадак дня канфэрэнцыі: 1) Адчыненьне канфэрэнцыі старшынёй Цэнтральнага Камітэту Б. С. С. паслом В. Рагуляй, 2) Даклады аб працы Саюзу і 3) Арганізацыйныя справы.

Наступная канфэрэнцыя адбудзецца ў Наваградку, далей у Паўстаўскім і Сьвенцянскім павеце.

**— Зьезд беларускіх Хадэкаў.** У нядзелю 6 г. лістападу адбыўся зьезд сяброў Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. Па дадзеным „Biel. Krynicy" на зьездзе было прысутнымі 129 сяброў з правінцыі і некалькі з самага места Вільні. Зьезд выбраў новы Цэнтральны Камітэт з 11 асобаў.

На другі дзень пасьля зьезду адбылося паседжаньне Камітэту, на якім выбраны быў на старшыню Ц. К-ту гр. П. Каруза, на віцэ-старшыню — гр. Я. Пазьняк, на сэкрэтара — гр. А. Стэповіч і на скарбніка—гр. Я. Шутовіч.

**— Дэлегацыі ў арцыбіскупа.** „Biełaruskaja Krynica" піша, што 7 г. лістападу дэлегацыя з 8 чалавек ад жодзішных парахвіян хадзіла да віленскага арцыбіскупа і прасіла яго выбавіць жодзішную парахвію ад кс. Дроніча, які нарабіў скандалаў у жодзішным касьцеле. Другая дэлегацыя з 13 чалавек ад барадзеніцкіх парахвіян прасіла вярнуць беларускую мову ў барадзеніцкі касьцёл. Дэлегацыя дастала арцыбіскупу заяву падпісаную больш як 200 парахвіянамі. Дзеля таго, што самога арцыбіскупа Яблжыкоўскага ня было ў Вільні, дэлегацыі прыняў біскуп-суфраган Міхалькевіч.

**— Паседжаньне Прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** 4 г. лістападу адбылося паседжаньне прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, на якім даручана старшыні Камітэту сэн. Багдановічу апрацаваць мэмарыял да Праваслаўнага Сыноду ў справе ўвядзеньня беларускае мовы ў Віленскую Духоўную Праваcл. Сэмінарыю. А так-жа даручана гр. Карузе апрацаваць пратэст у справе скандальных выступленьняў кс. Дроніча ў Жодзішным касьцеле.

**— З прычыны „Першага кроку".** Да нас даходзяць весткі, што на правінцыі наш артыкул „Першы крок" беларускае сялянства спаткала вельмі прыхільна. Што датычыць газэты „Праца", дык яна не дала рашаючага адказу, толькі паставіла запытаньне: „Што прымусіла?" Можна адказаць на гэта, што ніякага прымусу тут няма, а ёсьць жаданьне аб'яднаць беларускі фронт. Кіраўнікі „Працы" павінны былі зразумець гэта ў самым нашым артыкуле „Першы крок".

**— Толькі кропкі ды кавычкі.** Да ўсіх тых кропак, кавычкаў і запытаньняў з пісьма „Стоіка" у № 2 „Працы" дабавім наш наступны адказ: Мы ведаем, што „Стоік" пішучы пісьмо нічуць не пачырванеў, бо толькі чалавек страціўшы чалавечае пачуцьцё можа рабіць загану тым, якія пратэставалі проці законаў, што абмяжоўваюць правы нашага народу. А што як не пратэст проці пасяганьня на нашыя правы мы відзім у рэзалюцыях браслаўскае канфэрэнцыі Беларускага Сялянскага Сяюзу?

**— Пілігрымка.** Паўлюкевіч і пара яго малайцоў, як піша „Dziennik Wileński", хадзілі на паклон да віленскага ваяводы, пры гэтым дзякавалі пану ваяводзе і ўсяму польскаму ўраду за тыя „дабрадзействы", якія сыплюцца з урадовага ўлоньня на Беларусаў, а так-жа гэтым сваім візытам выказалі ўдзячнасьць за той урадовы абед, які зьелі разам з урадам 7 кастрычніка—ў дзень 7-х угодкаў захопу Палякамі Вільні.

### Друкарская памылка.

У папярэднім № 82 „Сял. Нівы", у аддзеле навінаў, у заметцы аб пружанскай канфэрэнцыі было абмылкова надрукавана „56", а трэба чытаць 65 прысутных.



Лес і гай з ім смуткаваў.
І пачула сэрца страту,
Як ня чула ўжо даўно;
Ні па матцы, ні па брату
Так ня смуціцца яно.
— Слухай, хлопча: што, каханы,
Ты тут робіш?—Зірк Сымон—
Госьць прад ім неспадзяваны!
Спужан хлопец і зьдзіўлён.
Па аблічы—пан, ня просты,
А з вялікіх, знаць, паноў
І ў адзеньні, так і ў росту,
Так і ў тоне самых слоў.
За плячыма—дубальтоўка,
І ладуньнік ёй дадан,
А шырокі пояс лоўка
Аціскае крэпкі стан.
Боты спрытны, за калені,
Рог—бы чортава рабро.
Завяршала ўсё адзеньне
Тое гордае пяро.
Вочы грозны і ўладарны,
Вусы—ворагам на страх,
А пры ім з найлепшай псярні
Псіна шворыцца ў нагах.
— А паведай мне, каханы,
Хто тут граў?—пытае пан,
Чорнавусы, падзіманы,
Шыты золатам жупан.
Што сказаць на запытаньне?
Ну, які тут даць адказ?
Вось спатканьне, дык спатканьне!
У бяду ўляціш якраз.
Хлопец топчацца і мнецца,
А нарэшце прызнаецца—
Я!—На рамень хлапчука
Тая панская рука,
Тая белая кладзецца.
— Гэта ты граў? ты, каханы?—
Хлопцу ў вочы пан зірнуў—
Нібы пан той і рахманы,
Хоць вачыма нейк бліснуў.
— А ты хто-ж такі, каханку?
— Я—вандроўнік... Ну, жабрак,
Я хаджу ад ганку к ганку;
Хто дасьць хлеба, хто траяк.
— Ага, так... Ну, хадзь за мною!
Зрушыў пан, улес ідзе,
А за ім Сымон ступою—
Лес штось ціхенька гудзе.
Хлопец мысьліць сам з сабою:
„Куды-ж ён мяне вядзе?
Што рабіць са мною будзе?"
І глядзіць у лес хлапчук.
Пан спыняецца на грудзе,
Стрэльбу вешае на сук.
Хлопцу страшна і цікава:
Што замысьліў гэты пан,
Гэта доўгая халява,
Шыты золатам жупан?
Пан ўзяў рог пакручасты,
Пазалочаны, блішчасты,
Важна выставіў нагу,
Галаву крыху адкінуў
Ды расправіў грудзі, сьпіну,
І ў ражок тоў—тру-гу-гу!
І пабегла гучна рэха
Ад сасонкі да дубка
І замёрла тонкім сьмехам,
Мяккім покатам клубка.
Чуць заціхлі гукі ў лесе,
Як ім голасна ў адказ
Рог дрыгучы раз-па-раз
Загрымеў у тым навесе,
Дзе суччо разьвесіў вяз.
А дзесь збоку, яшчэ далей,
Грае гучная труба,
Нібы срэбранаю хваляй
З гушчару плыве журба.
Пераводзіць хлопец вочы
То на пана то ў гушчар,
Дзе ражок, труба якоча.
Што рабіць з ім пан тут хоча?
Ён, відаць, тут гаспадар...
Вось праява негадана,
Не чакаў такіх навін!
Ці ня зызнуць лепш ад пана,
Покі ён стаіць адзін?
Вось джагнуць разок-два лоўка
Ды ў кусты пісаць вузлы!
Але ў пана—дубальтоўка
Дый сабака можа злы.
Не, брат, позна: валяць з лесу
Два паны і лясьнікі,
Уцякаць тут ня з рукі—
Няма сэнсу, інтарэсу.
Пан прысеў на пень дубовы
І чакае тут паноў.
Ён падняў на хлопца бровы,
Вочы блеснулі нейк зноў.
— Проша сядаць тут, панове!
Кажа пан у панскай мове,
Як прышлі сюды паны:—
Я злавіў у тэй дуброве
Штуку добрай дзічыны.—
На Сымона, як на дзіва,
Пан паказвае паном.
А Сымон стаіць маўкліва—
Знаць, ня трапіць у свой дом...
Ой, пан нешта замышляе,
Закід робячы дзіўны!...
А мо' добры лёс трапляе?
Дапамогуць тут паны?
Ён гадае так і гэдак
Ды глядзіць у гушчарняк,
Як ваўчок, як той аблетак,
Ды нявырвацца ніяк.
— А ну, хлопча, мой каханы,
Паіграй, як ты іграў!—
Хлопец зьлёгка задрыжаў
І ўзяў скрыпку паслухмяна;
Струны звонкія наладзіў,
Раз-другі смычком правёў
І аддаўся ўвесь абладзе,
Чарам струнных галасоў.
Льлюцца гукі ў леснай цішы
Срэбраплынным ручайком;
Лес замёр, стаіць, ня дыша,
Не варушачы лістком;
Прыпынілі сьпевы птушкі—
Скрыпцы ім ня ўзяць у тон;
Толькі пчолкі, чмель і мушкі
Далучаюць сюды звон.
Ён іграў аб тым спатканьні,
Аб дзяўчынцы яснавокай,
Волі вольнай і шырокай,
Аб сваім іграў блуканьні
І аб долі адзінокай;
Ён іграў аб родным дому,
Аб жыцьці сваім бязьлетным,
Аб імкненьні тым сусьветным,
Што чуваць у буры, грому.
І стаялі нярухліва
І паны і лясьнікі;
Вусы пан спусьціў маўкліва,
Іх пакусваў канчукі.
— Дасканала, дасканала!
Вось дзе талент захаван!...
Але здольнасьць, якіх мала!—
Адгукнуўся адзін пан;
А другі маўчаў зьдзіўлёна
Ды ўсхапіўся сакалом
І трактуе ён Сымона
Белым срэбраным рублём.
А пан першы, пан вусаты,
Да музыкі кажа так:
— Ну, каханы мой хлапак,
На жупан ты зьменіш латы,
І ты болей не жабрак;
Ты-ж рабі, што загадаюць—
Я бяру цябе ў свой двор!—
Пан гаворыць, вагу маюць,
Чэшуць словы, як тапор.

(Далей будзе).

# Гаспадарскі аддзел.

### Гутарка пра штучнае ўгнаеньне.

Калісьці нашым бацьком і дзядом ня трэба было думаць ні пра якія „парашкі“, каб угноіць сваю зямлю. Сенажацяў, выганаў тады было даволі, гною ад жывёлы хапала, а зямля яшчэ ня была так спустошана. Але-ж гэныя шчасьлівыя часы мінуліся; ураджаі ў нас з кожным годам зьмяншаюцца і, трэба спадзявацца, што пры сучасных спосабах вядзеньня сельскае гаспадаркі, яны і далей будуць зьмяншацца. Голад, недарод усё часьцей і часьцей заглядваюць у нашую старонку. Земляробства—гэта галоўная крыніца істнаваньня нашага краю ў заняпадзе. Селянін наш б'ецца над апрацоўкай свайго надзелу і, не атрымліваючы аплаты за сваю цяжкую працу, кідае гаспадарку і ўцякае за акіяны шукаць сабе лепшае долі.

Праяжджаючы церав чарод культурных старонак, дзе гаспадарка вядзецца культурна, нашы земляробы-эмігранты амаль заўсёды прычыну тут добрых ураджаяў знаходзяць у іншых кліматычных і грунтавых умовах. Але-ж гэта, сяляне, абмылка. Ёсьць старонкі, якія маюць шмат горшую за нашу зямельку і такі самы клімат, а ўраджаі атрымліваюць у два-тры разы большыя чым мы.

Чаму гэта так?

Там кожны гаспадар ужывае шмат штучнага ўгнаеньня, кожны гаспадар ведае натуру „парашкоў“, ведае на якую зямлю і пад якія расьліны яны лепш надаюцца.

Каб мець з зямлі ўраджай, акупаючы цяжкую працу гаспадара, ён павінен даць патрэбную для ўзросту расьлін колькасьць спажыўных матэрыялаў, ад прысутнасьці якіх залежыць рост расьлінаў.

У кожным грунце бывае у той ці іншай колькасьці гэтыя спажыўныя складнікі, але на нашых землях яны амаль не заўсёды знаходзяцца ў такім стане, я якога расьліны карыстацца ня могуць. Праўда, правільная апрацоўка зямлі, правільнае чарадаваньне расьлінаў у полі, сілы прыроды—памагаюць перавадзіць пажыўную матэрыю зямлі з аднаго стану ў другі, але пераход гэты робіцца вельмі марудна, дзеля чаго гаспадар мусіць папаўняць недахоп спажывы для расьлінаў праз унясеньне ўгнаеньня.

На нашых грунтах найчасьцей не хапае такіх угнаеньняў, якія маюць у сябе азот, фосфар, паташ і вапну. Усе гэтыя складнікі ўносяцца ў зямлю разам з хлеўным гноем. Вось дзеля чаго мы мусім лічыць гной ад скаціны за самы лепшы, бо ён яшчэ робіць на зямлю і ўкоснае дзеяньне, абагачае ральлю гумасам (перагноем), карыснымі бактэрыямі, ад чаго паляпшаецца будова зямлі. Але, на жаль, у нас, пры маларазьвітай жывёлагадоўлі, гэтага гною кожны раз не хапае. Каб дабра ўгноіць зямлю, трэба, як гэта паказалі практыка і навуковыя досьледы, палажыць на дзесяціну ад 180 да 100 вазоў гною (воз—20 пудоў). Вядома, што наш селянін ня ўносіць гэтага гною і паловы таго, што патрабуе яго ніва. Вось галоўная прычына нашых нізкіх ураджаяў, вось чаму цяжкая праца нашага земляроба рэдка дзе акупаецца.

Цяпер, паважаныя чытачы, робіцца зразумелым, што, калі гаспадар жадае павялічыць свой ураджай, ён мусіць папоўніць недахоп гною ад скаціны штучным угнаеньнем.

Але, каб часам, ня кідаць грошы за вакно, мы мусім ведаць натуру гэтых ўгнаеньняў, на якія яны ляпей надаюцца землі і пад якія збожжы. Толькі тады наш земляроб можа ўжываць іх з карысьцяй для гаспадаркі*) і павялічыць прадуктыўнасьць сваей працы і палепшыць сваю долю і долю тых, для каторых даруеш усё жыцьцё.

*) Усіх нашых чытачоў, жадаючых ужываць штучнае угнаеньне, раім пазнаеміцца з артыкулам: „Як павялічыць ураджайнасьць зямлі“, зьмешчаным у месячніку „Саха“ № 2.

(Працяг будзе).

# Весткі з Краю.

### З жыцьця маўчадзкае гміны.

(Баранавіцкі павет).

Ужо 4 месяцы прайшло ад таго часу, калі адбыліся перавыбары ў маўчадзкім самаўрадзе, а ў жыцьці сялянскае беднаты нічога не зьмянілася, бо, як трэ' было спадзявацца, нававыбраныя радныя пайшлі на ўгоду з ворагамі сялянства. Стары войт п. Варанец, ведамы тым, што ўсе, апрача абшарнікаў, не маглі яго цярпець, за некалькі гадоў кіраваньня гмінай страшэнна разбагацеў, дык, зразумела, не хацеў дабравольна ўступіць другому свайго цёпленькага мейсца. Яшчэ перад выбарамі арганізаваў ён групу сваіх прыхільнікаў, мэтай каторых было недапусьціць да выбару іншага войта. Аднак дапяць гэтага можна было толькі тады, калі новыя радныя падтрымалі-б старога войта. На гэта п. Варанец і яго прыхільнікі зьвярнулі найбольшую ўвагу. Першыя выбары, на якіх у раду прайшлі адныя сяляне, былі ўневажнены. Другія выбары далі зусім іншыя вынікі: у раду пралезьлі элемэнты варожыя сялянству, ды спачуваючыя старому войту п. Варанцу. Як-жа былі абураны жыхары гміны, калі даведаліся, што выбралі войтам вернага прыяцеля паноў—п. Варанца! У сувязі з гэтым жыхары м. Моўчадзі выслалі да навагрудзкага ваяводы дэлегацыю з мэтай высьвятліць усе інтрыгі і ашуканствы, якія былі дапушчаны ў часе выбараў. Але дэлегацыя вярнулася з вялікімі насамі: п. ваявода на заяву дэлегацыі не зьвярнуў ніякае ўвагі. Тады была выслана жалаба да п. міністра ўнутраных спраў, але і гэта памагло як кашаль хваробе.

Такім чынам застаўся стары войт, засталіся і старыя спосабы кіраваньня гміннай гаспадаркай. Ня буду называць проэьвішчаў усіх радных-Беларусаў. Гэта—людзі, ня маючыя ані ідэі, ані прынцыпаў, ані ініцыятывы. Скажу толькі, што сярод іх вельмі адзначыўся жыхар в-кі Кудзевічаў Мітрафан Бакач. Як многа добрага абяцаў ён зрабіць для сялян перад выбарамі! Як востра крытыкаваў ён дзейнасьць старога гміннага ўраду! Ён карыстаўся самымі хамскімі спосабамі барацьбы з чэснымі і безкарыснымі грамадзянамі, каторых сяляне ў абводзе в. Ярашова—Кудзевічы хацелі выбраць сваімі прадстаўнікамі ў гмінную раду. І што-ж? Гэты прототып Юды дапяў свае мэты: сяляне паверылі яму і выбралі... У часе перавыбараў ён адкрыта перайшоў на бок старага войта і абшарнікаў, разьбіваючы адначасна еднасьць сялян-выбаршчыкаў. Ня гледзячы на тое, што Мітрафан Бакач належаў да „Грамады“, п. Варанец назначыў яго сваім заступнікам. І вось, цяпер езьдзіць ён па вёсках і апісвае сялянскае дабро за падаткі. А жыцьцё сялян горшае з кожным днём усё больш і больш. На абшары гміны няма ані прытулкаў, ані шпіталяў, ані доктара. У сувязі з гэтым разьвяліся, як павукі ў бруднай хаце, знахары-шаптуны і ашукваюць цёмных сялян налева і направа. Ніякіх крэдытаў, ніякай дапамогі наагул—ня могуць бедныя сяляне атрымаць на падтрыманьне сваіх маленькіх церазпалосных гаспадарак. Дзякуючы гэтаму, абшарнікі за бязцэнак эксплёатуюць адзінае багацьце сялян—іх сілы, здароўе... Няма таксама роднае беларускае школы; дзяцей гоняць пад прымусам у нямілыя сялянам польскія школы. Няма каму заступіцца за бедных пакрыўджаных сялян і ў чым-небудзь дапамагчы ім! А на паседжаньнях гміннае рады за 4 месяцы ня было вынесена ніводнае пастановы, якая была-б скіравана да паляпшэньня цяжкага жыцьця сялян.

Будзь ты... гэтакі самаўрад!

*Х.*

### Спэктакль на вёсцы.

в. Вялікая Ліпа, Нясьвіскага пав. 14 кастрычніка на Пакровы, у нашай вёсцы Гурток Б. І. Г. і К. наладзіў спэктакль-вечарыну. На сцэне былі адыграны два сцэнічныя творы: 1) „На вёсцы“ Аляхновіча і 2) „Па рэвізіі“ Крапіўніцкага.

„На вёсцы“ была адыграна надта добра, асабліва добра, проста па мастацку выканалі свае ролі Гэлько Дэмух роль Стасюка і Зося Саўка — Гавулькі.

Добрую дэкарацыю да гэтае п'есы намаляваў наш малады мастак, Гурыло, з в. Крутога-Берага. Так, што наагул п'еса „На вёсцы“ зрабіла на гасьцей уражаньне захопліваючае.

Трохі слабей была адыграна „Па рэвізіі“. На вечарыне была трохі слабая аркестра. Але ўсё-ж такі гасьцей была поўная саля, хоць нейкія цёмныя асобы стараліся перашкодзіць адбыцца вечарыне.

Наагул вечарына, як зьявішча культуральнаасьветнае выпаўніла сваё заданьне добра. Усе глядзельнікі асталіся задаволенымі. Астаецца пажадаць, каб гэткія рэчы паўтараліся ў Ліпе часьцей.

Гуртковец.

### Беларускія дзеці ў польскіх школах.

У вёсцы Кастыках, Касьцянеўскай вол., з даўна была расейская, а цяпер ёсьць польская школа, сярод праваслаўных Беларусаў. Сьляды першай школы відаць яшчэ і цяпер, а сучасная школа ня толькі ніякага прасьвету дзецям не дае, але і шмат прыносіць школы, асабліва ў рэлігійнай старане праваслаўных. Вядома, Бог адзін, як у каталікоў так і ў праваслаўных, але кожная рэлігія маець свае законы, якія павінны ўважацца другімі. У Кастыцкай-жа школе, якой кіраўніком ёсьць вучыцель-Паляк Карбоўнічы, ня толькі яшчэ не перастаюць праваслаўныя вучні жагнацца папольску, але навет, чытаюць у школе і польскія малітвы. Цікава, чаму на гэта ня зьвернець увагу кастыцкага прыходу сьвяшчэньнік, які ёсьць і вучыцялем па рэлігіі?

Сяляне ўсе абураны такімі зьявішчамі і, каб не памерці духоўна, пачалі пісаць дэклярацыі на сваю беларускую школу. Даведаўся аб гэтым Карбоўнічы, які, мусіць, мае надта вялікую моц, бо пачаў пужаць дзяцей а праз іх, вядома, і бацькоў, што пакуль ён у Кастыках, дык беларускай школы ніколі ня будзець і нават праз 5 гадоў яе ня ўвідзяць. Вот дзе міністар прасьветы, ад яго ласкі, мусіць залежыць уся наша доля!

Сяляне, не пужайцеся такіх прыхадзімцаў, якія садзяць у наша цела чужую душу, а сьмела дабівайцеся сваей школы, ня кідайце пачатага дзела; процівзакону тут нічога няма.

Квактун.

*Сяляне! Арганізуйцеся, у арганізацыі—сіла!*

# Усячына.

### Новая жыдоўская сэкта.

У Будапэшце (Вэнгрыя) паўстала новая жыдоўская сэкта, якая верыць у... Хрыста. Называецца яна саюзам вэнгерскіх Жыдоў-хрысьціян. Саюз мае ўжо 4000 сяброў. Іх мэтаю зьяўляецца: зацерці рожніцу між старым і новым тэстамэнтам, жыдамі і хрысьціянамі, сілаю любові паміж чалавецтвам. Сябрам гэтае сэкты можа быць кожны жыд, ня гледзячы на тое, ці прыняў ён ужо якую колечы хрысьціянскую веру ці не. Закладчык гэтае сэкты адвакат д-р Дэзыдэры Фэльдэс заяўляе, што ў Амэрыцы, Англіі, Францыі і Нямеччыне даўно ўжо ёсьць жыды веручыя ў Хрыста.

Сама па сабе ідэя вельмі добрая... мэта шляхэтная, бо што можа быць прыгажэйшае як ня тое, калі людзі практычна падходзяць к таму, каб сілаю любові зацерці рожніцу паміж старым і новым тэстамэнтам, г. зн. паміж хрысьціянамі і жыдамі.

### Да ведама курцоў.

Прафэсар лякарскага аддзелу ў Кэмбрыджы, Роллестон прачытаў лекцыю аб шкодлівасьці нікатыну, даказваючы, што курэньне адбіваецца блага на мазгавыя функцыі, звапняе дыхавічны праход, а адначасна псуе апэтыт, робячы ілюзыю здаваленьня і павышэньня энэргіі.

Калі гэтак, дык раім усім курцом—пакінуць курыць... Не зважайце, што ад гэтага ўцерпіць дзяржаўны манаполь... Урад знойдзе новую крыніцу даходаў, а вы, курцы, перастаньце курыць, дык будуць у вас нармальна працаваць мазгі, ня будзе звапняцца дыхавічнае горла і пазбавіцеся ілюзыяў.



Рэдактар і выдавец А. Герасімчук. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.